**І ГЭТА ТАК!**

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** Лістапад 2015

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну**





**ГОМЕЛЬСКІ СЬЛЕД ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ**

стар. 2

**Gods Tower, Rasta, TT’34: трайны сплаў**

стар. 4

**«Асцярожна, дзьверы адчыняюцца»**

стар. 5

# ГОМЕЛЬСКІ СЬЛЕД ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

***У 1988 г. Гомельскаму ўнівэрсытэту было нададзена імя беларускага асьветніка і першадрукара Францішка Скарыны. Ад тых часоў з зайздраснай рэгулярнасьцю чуюцца зьедлівыя пакепліваньні нядобразычліўцаў: "На якой жа катэдры вашага ўнівэрсытэта працаваў Скарына?" альбо "А Скарына жыў на Савецкай ці на Кірава?". Між тым ініцыятары найменаваньня, хоць і ня мелі дастатковай інфармацыі, былі ня проста блізкімі да праўды, а сядзелі ў ёй па самую макаўку – адзін з эпізодаў біяграфіі Францішка Скарыны зьвязаны беспасярэдне з Гомелем.***

Пачатак XVI ст. – час памежных войнаў між ВКЛ і Масковіяй. Вайна 1500–1503 гг. завершылася "докончаньем" Аляксандра Ягелёнчыка ды Йвана III Васільевіча аб замірэньні на шэсьць год. Поруч з умоваю "в тые лета межи себе рати і войны не замысляти" гаспадар ВКЛ мусіў пагадзіцца із стратаю многіх сваіх гарадоў, у т. л. і Гомея з воласьцю і сёламі Уваравічы, Целяшовічы, Кошалеў Лес ды інш. У Гомеі сядзеў адданы васал маскоўскага ўладара Васілій Мажайскі. Надзеяў на мірнае вяртаньне ў склад ВКЛ даўняга радзіміцкага цэнтру не было. Таму ўвесну 1507 г. пачалася чародная вайна: увесну пасольства гаспадара ВКЛ Жыгімонта Казімеравіча паставіла перад маскавітамі пытаньне пра вяртаньне сваіх абшараў, "а звлаще Гомея".

Менавіта ў гэткіх акалічнасьцях мы і сустракаем Скарыну на гомельскай зямлі. У 1506 г. скончылася адтэрміноўка ад вайсковае службы, прадстаўленая яму ў зьвязку з навучаньнем на філязафічным факультэце Кракаўскага ўнівэрсытэта. Ухіляцца ад ганаровага абавязку ён ня стаў і , барждджэй за ўсё, ужо ўлетку таго ж году апынуўся ў Менску. Там пад пільным камандваньнем дасьведчаных інструктараў зь ліку караімаў (традыцыйных зь XV ст. целаахоўнікаў вялікіх князёў літоўскіх) Францішак праходзіў шкаленьне ў адумысловай харугве імя Мэркура Смаленскага. Цудам ацалелы рукапіс XV – XVI стст. "Дзёньнікі караімаў" (захоўваецца ў Буэнас-Айрас) пацьвярджае гэта: "Мижи воспитанцев наших ся выделяеть Франц Скоринин сын з града Полоцка (подле менюшки – Жорж). Ачколвек бывал студиосом, философию до головы бравшим, имаеть теперя прелестные показанники во всих караимовых подготовах, а звлаще в побиванию лобом муров цекгляных". У пачатку 1507 г. як адзін зь лепшых Скарына пасьпяхова ўдзельнічаў у спаборы на атрыманьне крапавага барэту, у якім ён адлюстраваны на знакамітай гравюры з уласнадрукаванай ім Бібліі (1517-1519 гг.). Калі пільна прыгледзецца, на барэце нават можна пабачыць кукарду. Ёсьць усе падставы меркаваць, што арыгінал гравюры быў зроблены яшчэ за доўга да пачатку выдавецкай дзейнасьці Францішка, а акурат у часе вайсковае службы як складовая частка дэмбэльскага альбома.

Увесну 1507 г. Францішак Скарына быў ужо камандзерам невялічкага спэцпадразьдзела, якому даручылі вельмі важкую місію – паспрабаваць малою крывёю адваяваць Гомельскі замак, нэўтралізаваўшы Васілья Мажайскага. Доўгі час гэтая інфармацыя, будучы па праўдзе навідавоку, заставалася непрыкметнай для скарыназнаўцаў. Рэч у тым, што ў прадмове "во всю Библию" Скарына дакладна адзначыў, дзе трэба шукаць зьвесткі пра ягоную службу ў войску: "Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей". У гэтым разьдзеле Бібліі наш першадрукар зашыфраваў свае ўспаміны пра гомельскую апэрацыю, камбінуючы мэтодыкі "дванаццацікалавых табліцаў", "палібіянскага квадрата" і "прамяністага кубка". Мова дэшыфраванага тэксту значна розьніцца ад традыцыйнае "скарыніцы", набліжаючыся больш да "актавіцы" – старабеларускай мовы актавых матар'ялаў таго часу. "За росказаньем господоря великаго князя нашего Жикгимонта а теж гетмана найвызшего Астрогскаго Костянтина двадцать пятаго дня месяца юня рушили мы место Гомей здобывати," – пачынае свой расповяд Францішак Скарына. "До околиц гомейских" ён разам з групаю (нажаль Францішак нідзе не называе сваіх падначаленых пайменна) быў дастаўлены "по воздуху за помоцъю чорнаго батяна, званаго инколи в панствах чужых фениксом". Група дэсантавалася дзесь у абсягу сучаснага Сяльмашу і без прамаруды ўчыніла маршкідок "в три версты литовских на полудень, игде по карти лежати мусело болото". Гаворка тут аб балоце, якое ў пазьнейшыя часы (XIX-XX стст.) было знаным як Гарэлае. "З онаго ж початок имаеть ручей, который Гомеюком рекуть а який до самаго гомейскаго замку доплываеть, у Сожу впадаючи," – паведамляе Скарына. Падрыхтовы ў караімаўскім лягеры ня мінулі дарэмна. Група пагрузілася ў ваду Гамеюка і апрычонымі гукавымі заклёнамі замовіла тутэйшых

какадрылаў (у мясцовых дыялектах – кракодзілы), якія захоўвалі вернасьць Вялікаму Княству Літоўскаму. Пры іх дапамозе "до черевьев учепившися", караімаўцы праплылі пад вадою рэшту адлегласьці да замка. "А дыхали мы през соломку маковаю для вельшего эффекту воздушнаго," – тлумачыць камандзер групы.

Перш, чым пайсьці пад драўляныя замкавыя сьцены, вої "стали на водмели вкруг, ся тримаючи за руки, абы сотворити поле сильное" для наводзінаў трансу на варту. Сапраўды, ужо праз хвіліну з боку вартавых вежаў "донеслося голосное хрыпенье, в спячку впалых". Льга было ўрывацца ўнутро. Выявілася, што і за сьценамі замка панавала праўдзівае царства сну. Рухаючыся да княскага двару, адзін зь людзей Скарыны "на крывым мести ся спотыкнул" ды "крыкнул звонко, поминаючи роспустных жанок", чым у момант спраставаў, наведзены на маскавітаў транс. Ушчалася крывавая сеча. Сваёй нахрапістасьцю ворагі не дазвалялі ні Скарыну, ні ягоным супольнікам скарыстацца чым-кольвек зь іх спэцрыштунку: "дудку-самагудку посекли, а з чоботов-борздобегов подметки позрывали". Уся надзея заставалася на эксклюзіўныя срэбныя шаблі зь іртутным напаўняльнікам. Група пастанавіла, хаця б цаною собскіх жыцьцяў, выкінуць з Гомея Васілья Мажайскага. "Але Василька в хоромине не было, только рукописанье на дверех дубовых светчило: «Пошел в баню в Уваровичи»," – роспачна адцеміў Скарына. Ворагі юшыліся, рвучыся ў "хоромину". Беларусам здалося, што "деяние наше провалено ест", што з сытуацыі "жаднаго выхода нетути". Караімаўцы пачалі ўжо маліцца, калі камандзер іхны згадаў пра дрэсіраваную муху цэцэ, якую яшчэ ў студэнцкія гады прыдбаў на кракаўскім рынку. Абудзіўшы ада сну, ён выпусьціў яе з адумысловае пушачкі, якая поруч з нацельным крыжыкам, і вайсковаю біркай вісела на шыі, і даў наўпросты загад: "Куси москаля!". Для маскавітаў гэта было "несподеванки полные портки" і яны "горло драти зачали, от мухи моей ратунку благаючи".



Карыстаючыся з замятні, група Скарыны мусіла ўцякаць. Каб не зыходзіць з пустымі рукамі, яны прыхапілі з сабою харугву Мажайскага. Пакуль маскавіты "лахи пад пахи" ад мухі бегалі, беларусы "спокойныя, яко слоны, але смутныя, яко зозули до ворот пошибовали". Група задала нырца ў сожаўскія хвалі і паплыла на процілеглы бераг.

Маскавіты ж ушчалі "з пищалей пукати, абы ся отомстить за тую свою ганбу". Зь вялікаю цяжкасьцю, але "за подякаю фортуны" беларусы выйшлі жывымі з вады. Радасьці было мала – апэрацыя праваленая, самі ў тыле ў ворага, ніякай помачы ніскуль чакаць не выпадала. Дзівіла, праўда, тое, што ніхто "не стал преследы чынити". З тым подзівам забрылі яны ў нейкае пасяленьне, дзе "жоны одны одинокия мешкали". Тамака ж караімаўцы і заначавалі "добрым а ласкавым обычаем". Простыя беларускія бабы-ёгі, якія "тылко до чужимцев в страхотие оберталися", насамрэч "пиенкностию и кунегою красовали". Яны й ахвяравалі для вояў яго вялікакняскай міласьці колькі лятальных сродкаў, на каторых тыя "до Менску полетели рыхло". Вышэйшае камандваньне было незадаволеным. Сёй-той хацеў аддаць Скарыну пад трыбунал, але прадстаўлены трафэй улагодзіў справу: вораг быў зганьбаваны, дарма што і застаўся "вымытым" сядзець у Гомеі. Маскоўскі ўладар Васіль III, які толькі часткова дазнаўся пра дзёрзкую акцыю беларусаў на Гомельшчыне, неадкладна загадаў узрэзаць паўночна-усходнія межы ВКЛ і напасьці на Полацк і Смаленск. Сытуацыя ў краіне ўскладнялася з прычыны закалота, учыненага чарнакніжнікам Міхалам Глінскім (у народзе – Глінскі-Папялінскі). У гэтым тумульце, крывавым балі з адцятымі галовамі сьляды Скарыны часова губляюцца.

Памяць пра тое, што Францішак Скарына быў пад Гомелем захоўалася да пачатку XIX ст. З вуснаў у губы перадавалася легенда пра таямнічых "нашых рускіх салдат", якія "ночку-начавалі з бабамі нашымі", ад таго "і мы ўсе пайшлі". Тое пасяленьне зараз уваходзіць у межы горада. Тамака і і месьціца вуліца імя Скарыны, а таксама і вуліца Бабушкіна (званая так, як разумееце, зусім ня ў гонар расейскага рэвалюцыянэра). Гомель не забывае сваіх герояў.

*Гомель, 2003 г.*

- Віншуем вас, вы скончылі нашу ВНУ і атрымалі ступень бульбазаўра!
- Можа, бакалаўра?
- Пасля нашай ВНУ вы максімум бульбазаўры.

# Gods Tower, Rasta, TT'34: трайны сплаў

***Часам яны вяртаюцца, як пісаў Стывен Кінг. Прайшоў роўна год пасьля The Greatest Reunion, і гомельскія монстры зноў далі аб сабе знаць, зладзіўшы шоу 36/13 у менскім Re:Public'y. Канцэпцыя мерапрыемства прадугледжвала, што трынаццаць музыкаў з трох цяжкавагавых калектываў – GodsTower, Rasta, TT'34 – сыграюць разам 36 кампазіцый і нагадаюць, чым славутая гомельская метал-сцэна.***

Падрыхтоўка да шоу пачалася за некалькі месяцаў. Кожны гурт выпусьціў па проматроліку, даваў інтэрв'ю, рабіў рэкламу, трымаў інтрыгу і пад 31 кастрычніка выбухнуў новай песьняй. Прадчувалася, што гэтым разам будзе неверагодны "hellyin".

Чаканьні ад спліт-канцэрту спраўдзіліся амаль цалкам: поўны да краёў клуб, эфектны сьвет і відэашэраг, моцная падача са сцэны, утрапёны слэм на танцпляцы і адчуваньне сьвята, пасьля якога ва ўсім целе застаецца прыемны боль, а ў галаве – лёгкі шум і сагравальныя ўспаміны. Адзінае, экшану ўсё ж не хапіла. Чакалася, што гурты будуць у большай ступені "перамешвацца". Па выніках GodsTower, Rasta, TT'34 гралі па чарзе некалькі песен і саступалі месца адзін аднаму, часам "пазычаючы" гітарыстаў ды вакалістаў. Але ўзровень быў вытрыманы годны, тлушч сачыўся з манітораў, хаця гук быў і не ідэальны.

Rasta прыемна зьдзівілі ня толькі сваёй новай кампазіцыяй "Timeless", але і сапраўдным алдскулам – "Gods Want Me to Pray". Праўда, у выкананьні часам адчуваўся пэўны разлад, што можна спісаць на недахоп практыкі. Больш за тое, напярэдадні канцэрту ад гурта паступіла заява аб тым, што пасьля шоу Rasta выступаць не зьбіраюцца і ідэй для новых песень ня маюць. Аднак абвяшчаць "ганебны апошні канцэрт" таксама ня будуць. Гучыць загадкава. І, мяркуючы па апошняй песьні, гурту яшчэ ёсьць куды ісьці. Шкада, калі яны насамрэч гэтага ня бачаць.

Як заўжды на вышыні выступілі "слупы" Gods Tower. Апрача народна ўлюбёных "Twilight Sun", "Seven Rains of Fire", "Rising Arrows" ды іншых прагучала новая песьня "Liar", прысьвечаная Джардана Бруна. І калі вы ня ведаеце, хто гэта такі, Лэслі Найф катэгарычна адпраўляе вас чытаць падручнікі. А BelMetal вам сьцісла падкажа, што гэтага італійца спалілі на вогнішчы як ерэтыка за рэвалюцыйныя касьмічныя тэорыі. Што датычыцца кампазіцыі ўвогуле – меладычна, важка і дыхтоўна. Можна закладацца, калі б вы пачулі "Liar", то па фірмовым стылі адразу б пазналі выканаўцаў.

Вялікае ўражаньне на многіх зрабілі TT'34. Новы трэк тэтэх, "Родина", быў успрыняты публікай неаднназначна. Але, па словах саміх музыкаў, ягонай мэтай было правакаваць людзей, і ў гэтым сэнсе "Родина" падцэліла ў самую кропку. Трапным стрэлам аказаўся і ўвесь выступ гурта: баевічкі "Самураи", "Пздц", "Бум" і, канечне ж, "Джек" парвалі натоўп. Думаю, большасьць траўм, атрыманых на 36/13, гэта заслуга менавіта харызматычных TT'34. Тым больш, гэтым разам харызма была памножаная на два: разам з дзеючым вакалістам Любамірам да гурта далучыўся і экс, люты Аляксандр Пацёмкін. Пры гэтым яны не заміналі, а гарманічна дапаўнялі адзін аднаго. Прынамсі, ня ведаю, як я выжыла пад самай сцэнай.

Фінальнай кропкай стала "гаставараўская" "Evil", пад якую на сцэне пакрысе зьяўляліся ўсе ўдзельнікі спліту. Абдымкі, словы падзякі, усьмешкі і ўсеагульнае захапленьне – вечар гомельскага металу скончыўся. І нягледзячы на тое, што натоўп скандаваў "Гомель!", выступу на біс не адбылося, бо, як высьветлілася пазьней, а адзінаццатай у клубе было запланавана іншае мерапрыемства.




Падводзячы вынікі, адзначу, што мерапрыемства мела посьпех. Калі мы і не атрымалі нешта эксклюзіўнанове, то дакладна вярнулі жывую атмасферу мінулых канцэртаў. Прыемна, што, ў адрозьненьні ад вядомай байкі, сумеснымі высілкамі трох align="left"рознабаковых гуртоў, адзін зь якіх натхняецца космасам, другі паварочваецца на захад, а трэці хіліцца ў бок нашага усходняга суседа, воз беларускага металу такі зрушыўся зь месца.

*Паліна Трохаўцава*

# «Асцярожна, дзьверы адчыняюцца»

***«Асцярожна, дзьверы адчыняюцца» — так кажуць ў метро. Але ў Гомелі няма метро... І таму я быў неасцярожны... Сёньня, ў дзень, адчыніў дзьверы уласнаруч... А, мабыць, дарма... Чатыры жанчыны рознага ўзросту, ад двадцаці год да, амаль, сямідзесяці, сустрэлі мяне сьмехам.***

Ці ведаеце, ў нашай канторы штомесяц складаецца графік дзяжурстваў па офісе? Звычайны такі графік, савецкі. Той хто дзяжурыць – павінен ў абед брындаць па калідоры і наглядаць, каб выпадковы наведнік не скраў вогнетушыцель, або стэнд з плакатамі супраць алкгалізму... Але потым дзяжурны мае права на гадзіну раньней сысьці да дому. Мае права, але ж дырэктар гэтага не ўхваляе — маўляў «маеце права на гадзіну пазьней паабедаць»...

Гэты графік павінен складаць я. Вядома ж, ён складаецца з улікам пажаданьняў жанчынаў. Бо яны маюць вельмі шмат абавязкаў па хаце. Прыгатаваць вячэру мужу, апрануцца адпаведна, сьвечкі запаліць... А тыя, хто дасягнулі найвялікшай мудрасьці і разуменьня жыцьця, яны маюць права проста радавацца жыцьцю. Гэта сапраўды ёсць добра. Я паважаю ўсе гэтыя захады, бо жыцьцё жанчынаў у нашай краіне зусім не простае...

І вось я ўваходжу.

Звычайны, савецкі кабінет, толькі з кампутарамі. Панад імі, кампутарамі, каляндарык ад Рускай Праваслаўнай Царквы... На кастрычнік – выява Маці Божай Пачаеўскай. Маці Марыя вельмі пяшчотна трымае Сына. На камяні – Яе Сьлед. Яна пакідае свой сьлед нават на самых каменных сэрцах...

Шафа-купэ. Тэчкі на падваконьні. На адной з тэчак – надпіс «Белая Русь». Курсівам... Яна ў прыканцы шэрагу іншых падобных тэчак.

А маладзейшыя сьмяюцца.

Першая, самая маладзейшая, смяецца і пакідае роспіс супраць пятнаццатага.

Другая – кажа блытана на беларускай мове: «А вось вы тут размаўляеце... Я не хачу... Не жадаю дзяжурыць у гэты месяц... Не буду распісвацца тут... Вы гаворыце...» — потым не памятаю...

Астатнія сьмяюцца. Разам з імі і старэйшая нішчыць свой сьмех, каб не паказаць яго...

Кажу: «О! Вы так добра размаўляеце на беларускай мове! Гэта вельмі прыемна!» Смех стаецца больш галосны.

Тут пачынаю разумець: у абедзенны перапынак я размаўляў з сябрам. Размова адбывалася на Мове. Нехта з іх пачуў. Думаю...

І тут, сеўшы на акраек стала, вырашаю: тая, што размаўляе на Мове, хоця ж бой з здзекам, вартая прэзенту. Бяру ў яе ліст з словамі: «За тое, што размаўляеце на мове, выключаю Вас з спісу па графіку. Не будзеце дзяжурыць у гэты месяц.» Цішыня... Перадаю аркуш трэцяй. Яна распісваецца. А я з аркушам накіроўваюся да выходу. І раптам заўважаю тыя роспісы.

Справа ў тым, што графік на ім даты на кастрычнік месяц. Пятнаццтае – гэта нядзеля. Я кажу: « Я тоже хочу дежурить в воскресение, но так не бывает...Определяйтсь с датами..» І аддаю ізноў графік па коле...

Праз пятнаццаць хвілінаў йзноў захажу да іх з новым аркушам — ужо падпісваць з размешчанымі прозвішчамі па датах, якія яны абралі.

Першая падпісвае моўчкі. Другую (тую, што размаўляла на Мове – мінаю), трэцьцяя чытае спіс: «А дзе «другая»? (хаваю імёны, бо справа не ў іх) Я тоже не хочу дежурить...»

Першая: «Это дискриминация русскоговорящих!»

Адказваю: «По закону у на два государственных языка— равных в правах... Вас никто не заставляет говорить на любом из них – продолжайте говорить на русском! Но тот человек, который говорит на беларуском – заслуживает бонус.» Трэцяя падпісвае (усьмешка старэйшай зьнікае з твару) і кажа: «На следующий месяц чтобы меня тоже не было! Я не согласна с некоторыми (ківае ў бок другой) – почему им... Это не правильно!»...

Адказваю: «А это заслужить надо..... Другая: « Спасибо»... Выхожу з кабінета...

*Уладзімір Яначкін*




**- Колькі каштуюць вунь тыя пернікі?**
**- Мужчина, я вас не понимаю, говорите нормально.**
**- Давайце сюды кнігу скаргаў.**
**- 23400 за килограмм.**

# Шкляны завод затрыманага Мураўёва ідзе на санацыю

***Шклозавод «Ялізава» накіраваў у магілёўскі дзяржсуд заяву аб банкруцтве прадпрыемства. Дадзеную інфармацыю TUT.BY пацвердзілі на самім прадпрыемстве.***

Гаворка ідзе аб санацыі прадпрыемства, а не аб банкруцтве ў прамым сэнсе гэтага слова, падкрэслілі на заводзе. «Фінансавая сітуацыя не вельмі добрая, таму [заводу] неабходны перыяд санацыі (перыяд адтэрміноўкі выплат крэдыторам. — TUT.BY)», — адзначылі там. Усім крэдыторам накіравалі адпаведныя лісты. Ад іншых каментароў на «Ялізава» адмовіліся.

З пачатку 2000-х гадоў 65% акцый шклозавода «Ялізава» належыць ATEC Holding — гэта зарэгістраваная ў Аўстрыі кампанія, адным з асноўных уладальнікаў якой называюць вядомага беларускага бізнэсмена Аляксандра Мураўёва. 35% акцый належыць дзяржаве.

Агенцтва ПРАЙМ-ТАСС са спасылкай на свае крыніцы паведамляе, што ў цяперашні час на прадпрыемстве працуе адна з трох шклаварачных печаў, і гэта адбіваецца на аб'ёмах выпуску прадукцыі. Вытворчасць шкляных слоікаў у студзені-верасні завод скараціласа на 52,4%, да 78,7 мільёна штук, шкляных бутэлек — на 31,2%, да 28,1 мільёна штук. Адгрузка слоікаў на ўнутраны і знешні рынкі знізілася ў студзені-верасні 2015 на 44,2%, да 88,8 мільёна штук, бутэлек — на 6,7%, да 36 мільёна штук.

Доля экспарту ў структуры адгрузак ў студзені-верасні 2015 складала 28% і знізілася на 11,7 працэнтнага пункта ў параўнанні з узроўнем студзеня-верасня 2014 года. У грашовым выражэнні адгрузкі на экспарт склалі 3,4 млн даляраў (мінус 58,9%). «У апошнія месяцы мы крыху павялічылі экспарт у параўнанні з пачаткам года, але ў параўнанні з мінулым годам ён істотна знізіўся», — удакладніў суразмоўца агенцтва.

У пачатку лета з'явілася інфармацыя аб затрыманні Аляксандра Мураўёва, яго братоў, а таксама першых асоб ATEC Holding і мінскага мотавелазавода.

14 мая ў друкаваным органе Адміністрацыі прэзідэнта газеце «СБ. Беларусь сегодня» выйшаў артыкул пра тое, што на шклозаводзе не працуе два цэхі з трох. Праз пазыкі (у прыватнасці, за газ — 8 млн даляраў) збіраліся спыніць і апошні цэх, але тады з цэхам можна было б «зачыняць» і пасёлак Ялізава, дзе шклозавод з'яўляецца горадаўтваральным прадпрыемствам. Мураўёў наракаў на высокі кошт на газ для завода ў параўнанні з расійскімі канкурэнтамі і прапаноўваў увесці часовыя забаронныя меры на ўвоз шклатары з Расіі.

Раней праходзіла інфармацыя аб банкруцтве двух іншых шкляных актываў Мураўёва — лідскай «Белеўратары» і «Гомельскага шклатарнага завода».

*tut.by*

# Гамельчука аштрафавалі на $1000 за ўхіленне ад войска

***Дваццацігадовы жыхар Гомеля прысуджаны да штрафу ў 100 базавых велічыняў (18 мільёнаў рублёў) за ўхіленне ад службы ў войску.***

Суд Савецкага раёна Гомеля прызнаў яго вінаватым па частцы 1 артыкула 435 Крымінальнага кодэкса Беларусі, паведамляе прэс-служба Гомельскага абласнога суда.

У маі 2015 года маладога чалавека выклікалі ў ваенкамат, прызыўнік пад роспіс атрымаў позву для праходжання медыцынскага агляду. Аднак на камісію хлопец не прыбыў. Паводле версіі следства і суда, зрабіў ён гэта наўмысна, з мэтай ухілення ад мерапрыемстваў прызыву на воінскую службу.

Прыгавор набыў законную моц.

*БелаПАН*



# П'яная віноўніца ДТЗ у Гомельскім раёне кінулася з кулакамі на супрацоўніка ДАІ

***У дачыненні да жыхаркі Гомельскага раёна, якая ўчыніла ДТЗ 24 кастрычніка, распачатая крымінальная справа за «гвалт або прымяненне гвалту ў дачыненні да супрацоўніка АУС».***

У гэты дзень інспектары ДАІ атрымалі інфармацыю пра ДТЗ у пасёлку Урыцкае і спробу віноўніка ўцячы, паведаміла інспектар аддзялення па агітацыі і прапагандзе ДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама Наталля Халалеенка.

«Адзін з супрацоўнікаў, калі прыбыў на месца здарэння, падышоў да жанчыны і, назваўшы сябе, пацікавіўся, хто быў за рулём аўтамабіля. Жанчына, якая была нападпітку, растлумачыла, што за рулём быў яе муж, — сказала інспектар. — Для размовы і афармлення правапарушэння кіроўцу аўтамабіля, які, дарэчы, таксама быў п'яны, было прапанавана прайсці ў службовы аўтамабіль».

«Як толькі мужчына сеў у службовы аўтамабіль, у натоўпе прахожых, дзе была і жонка парушальніка, супрацоўнікі пачулі размову на павышаным тоне, якая пераходзіла на крык. Адзін з супрацоўнікаў ДАІ выйшаў з аўтамабіля і падышоў да групы людзей, каб высветліць прычыну канфлікту. Калі супрацоўнік наблізіўся да іх, на яго наляцела жанчына з пагрозамі, стала біць і хапаць яго за форму. Яго напарнік паспяшаўся на дапамогу калегу. Справакаваўшы бойку, зачыншчыца кінулася да службовага аўтамабіля, каб знішчыць дакументы. Толькі з дапамогай наручнікаў супрацоўнікам ДАІ ўдалося супакоіць мужа і жонку», — паведаміла Халалеенка.

Як пазней высветлілася, за рулём аўтамабіля, які ўчыніў ДТЗ, знаходзілася менавіта жанчына, а не яе муж. Хуліганку даставілі ў наркадыспансер, але ад праходжання агляду яна адмовілася. У выніку жанчына панясе не толькі адміністрацыйную адказнасць у выглядзе буйнога штрафу і пазбаўлення права кіравання машынай на тры гады, але і крымінальную.

*БелаПАН*



## ГумНо СПАРТЫЎНАЕ






15 лістапада
14.00
САК «Алімпійскі»
#БІТВАЗАВЫШКУ
Крумкачы – Днепр









ЗАСТАЎСЯ
АДЗІН
КРОК.
ЗРОБІМ ЯГО
РАЗАМ!



15 лістапада
14.00
САК «Алімпійскі»




#БітваЗаВышку

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Лістапад 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на
папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA